Імя ў педагогіцы

# Самая мудрая мама

***Кажуць, што тэатр пачынаецца з вешалкі. А з чаго пачынаецца школа? Давайце паспрабуем паразважаць... Магчыма, школа пачынаецца са светлых і ўтульных школьных класаў, дзе можна ўбачыць кветкі і фатаграфіі ўсмешлівых дзяцей, стэлажы з падручнікамі і томікамі любімых вершаў настаўнікаў...***

А можа, школа пачынаецца са спартыўных залаў, дзе з задавальненнем займаюцца вучні і педагогі, дзе можна выпрабаваць свае фізічныя магчымасці на знакамітых кетлераўскіх трэнажорах...

Не, напэўна, школа пачынаецца з цёплай, чыстай і светлай школьнай сталоўкі, дзе цябе чакаюць, дзе стараюцца накарміць так, што пасля гэтага вучэнне не здаецца цяжкім, бясконцым, надакучлівым і шэрым...

Усё гэта мае падставы. Але, відаць, усё-такі школа пачынаецца з педагогаў, якіх у мінскім навучальна-лінгвістычным комплексе "Гімназія-каледж №24" больш чым 120 чалавек. Маладыя і пасівелыя, усе яны – адзінае цэлае. Спытайце ў вучняў, якія ўжо самі вяртаюцца ў гімназію педагогамі: "Чаму вы тут? Чаму хочаце працаваць у школе, у якой вы вучыліся? Няўжо не надакучыла?!" "Не, – адказваюць яны. – Дома і сцены дапамагаюць". Так кажуць усе: дзеці і дарослыя, бацькі і настаўнікі.

Школа – гэта дом. Дом, у якім ніхто не бывае абдзелены ўвагай і ласкай.

Дык з чаго ж пачынаецца школа?

Яна пачынаецца з чалавека, які круціць цяжкі махавік машыны пад назвай "школа" ўжо дзевятнаццаць гадоў. Гэта дырэктар гімназіі-каледжа №24 Тамара Міхайлаўна Бабіч. Не, так нельга гаварыць – дырэктар. Гэтае слова строгае, сухое і невыразнае. Тамару Міхайлаўну яно мала характарызуе. Яна – Чалавек з вялікай літары, добры і ўважлівы, спагадлівы і клапатлівы. Яна ўмее адчуваць боль і радасць сваіх вучняў, боль і радасць педагагічнага калектыву, памятае праблемы кожнага: у некага хварэе дзіця, і трэба адпусціць калегу, камусьці неабходна прафесійная педагагічная кансультацыя – і вось ужо акрылены настаўнік выходзіць з яе кабінета.

Тамара Міхайлаўна – цудоўны настаўнік. Яна любіць свой прадмет — геаграфію, і таму геаграфію добра ведаюць і любяць яе вучні. Тамара Міхайлаўна ўвесь час у пошуку. Хочаш даведацца пра нешта новае ў арганізацыі вучэбнай дзейнасці — ідзі да яе на ўрок, і час праляціць як адно імгненне, і недарэмна.

Тамара Міхайлаўна кіруе вялікім калектывам, і гэта ў яе таксама выдатна атрымліваецца. Бо далёка не кожнаму ўдаецца кіраваць установай амаль дваццаць гадоў. А яна змагла! Чаму? Таму, што яна любіць людзей, якія працуюць побач з ёй. Таму, што яна заўсёды ў творчым пошуку. Калектыў, які яна ўзначальвае, не стаіць на месцы: нетрадыцыйныя формы педагагічных нарад, выдавецкая дзейнасць навучальнай установы, творчыя семінары, справаздачы педагогаў перад бацькамі, свабода духу і палёт думкі – усё гэта дзякуючы яе нястомным клопатам. Пра ўсё не раскажаш, гэта трэба бачыць.

А яшчэ Тамара Міхайлаўна Бабіч – вельмі сімпатычная жанчына і самая разумная, самая мудрая мама. І, напэўна, невыпадкова яе дачка выбрала для сваёй дзейнасці педагагічную ніву.

Дык з чаго пачынаецца доўгая дарога да школьнага парога? З добрай усмешкі і шчырага сэрца педагога і кіраўніка мінскага навучальна-лінгвістычнага комплексу "Гімназія-каледж №24" Тамары Міхайлаўны Бабіч!

**Наталля ДЗЕРАКЛЕЕВА.**

НА ЗДЫМКУ: Тамара Міхайлаўна Бабіч.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# Пра бізнес-вумен, "экстрэмалак" і залатую сярэдзіну...

***Лічыцца, што выкладчыцы не да твару задзірлівыя, яркія, самавітыя туалеты. Маўляў, гэта адцягвае ўвагу слухачоў ад тых звестак, якія яна паведамляе. Але, прабачце, гэта ўсё роўна што сказаць: выкладчыцы належыць выглядаць так, каб не выдзяляцца з інтэр'еру. Размова ж ідзе не аб камп'ютэры, якія прызначаны "выдаваць" інфармацыю, а пра жывога чалавека, тым больш - пра жанчыну!***

***Так ці інакш, на занятках менавіта яна ў цэнтры ўвагі, а цікаўныя студэнткі толькі і займаюцца што падлікам: колькі ў яе пярсцёнкаў на абедзвюх руках, колькі разоў за лекцыю усміхнулася, колькі лішніх "кіло" хавае сукенка... Дык, можа, лепей прыцягваць позіркі добрым густам і ўраўнаважанасцю, чым неахайнасцю ды безгустоўнасцю?***

І ўсё ж цікава, што на самай справе мяркуюць студэнткі (яны, думаецца, найбольш назіральныя) накont знешнасці сваіх выкладчыц. Якімі б яны хацелі іх бачыць? Вось некаторыя з тых выказванняў, якія я пачуў падчас свайго міні-апытання.

**Аня Шагойка, першы курс, журфак, БДУ:**

Я заўсёды звяртаю ўвагу на знешнасць выкладчыцы, таму што па знешнасці, я лічу, можна ўгадаць характар чалавека. Вочы выпраменьваюць добразычлівасць, голас спакойны, на вуснах усмешка – такая жанчына будзе вельмі прыемнай ва ўзаемінах, карэктнай і тактоўнай.

Стыль адзення – гэта праява індывідуальнасці. Мне б спадабалася "залатая сярэдзіна" – каб не занадта строга і пры гэтым някідка, сціпла і ў той жа час нябясколерна. Ну і, вядома, калі ў парадку твар і прычоска – гэта любому спадабаецца.

**Аляксандра, журфак, БДУ:**

Пры першым знаёмстве выкладчыца вабіць манерай паводзін, спакойнай паходкай, павольнымі рухамі. Нервовая хада і празмерная жэстыкуляцыя неяк насцярожваюць. Узнікае падазрэнне, што чалавек гэты неўраўнаважаны. Натуральна, шмат прыемней, калі выкладчыца апранута з густам, крыху бліжэй да той моды, якую прымае сама моладзь. Аднак мода – гэта, на маю думку, справа другарадная. А вось на першае месца я паставіла б акуратнасць. Таму што выкладчык, у пэўным сэнсе, – прыклад для студэнтаў.

**Вольга, чацвёрты курс, МДЛУ:**

Яшчэ на першым курсе маю сімпатыю выклікалі выкладчыцы, якія манерай апранацца і стылем паводзін неяк пераймалі моладзь. Але цяпер я лічу, што гэта ні пры чым. На мой погляд, выкладчыца ВНУ павінна выглядаць салідна і строга. У яе гардэробе абавязкова павінна быць некалькі класічных універсальных дарагіх рэчаў, якія можна было б камбінаваць.

Для кожнага ўзросту – сваё адзенне. Джынсы – гэта не вельмі здорава для выкладчыцы. А спадніца вышэй калена на сталай жанчыне (як спосаб "скінуць" дзесятак лішніх гадоў) у мяне, да прыкладу, выклікае непрыязнасць.

**Юлія Яцко, другі курс, Вышэйшая школа турызму, БДЭУ:**

Калі мая старэйшая сястра пайшла працаваць у школу, яна адразу абмежавала свой гардэроб. Выключна доўгімі строгімі спадніцамі і сукенкамі. Яна лічыла, што інакш вучні "няправільна зразумеюць". Можа, у школе гэта і апраўдана. А ва універсітэце дарослыя людзі вучацца. Таму я лічу, што выкладчыца ВНУ (незалежна ад узросту) час ад часу можа дазваляць сабе нейкія "вольнасці" накшталт дэкальтэ, панчох яркіх колераў ці розных ювелірных упрыгажэнняў. У любым эксперыменце галоўнае – не перабраць, і тады гэта не будзе выглядаць як нешта смешнае і ўспрымецца адэкватна.

Мне падабаецца, калі выкладчыцы апранаюцца свабодна, разняволена таму, што яны дапускаюць "экстрым" у адзенні студэнтаў. Да прыкладу, такую выкладчыцу не раздражняе падчас экзамену мая ярка-чырвоная хусцінка, яна будзе слухаць толькі мой адказ. І я не павінна наўмысна пераўтварацца ў шэрую мыш, каб ёй дагадзіць.

**Ганна Прыхно, другі курс, Вышэйшая школа турызму, БДЭУ:**

А ў мяне выклікаюць захапленне выкладчыцы, якія сумяшчаюць два ці тры месцы працы і пры гэтым выглядаюць "на ўсе сто". Іх дэвіз – "Не змарнаваць ні адной хвіліны". Гэтаму іміджу энергічных, імклівых бізнес-вумен адпавядае і стыль адзення. Калі класічнага крою касцюм, дык абавязкова нейкіх незвычайных, але прыемных для вока адценняў. Прычоска, макіяж, аксесуары, упрыгажэнні – заўсёды "ў тэму" і прадуманы да дробязей. Ну проста прыклад для пераймання!

**Дар'я, журфак, БДУ:**

Зразумела, што далёка не кожная выкладчыца можа хоць бы раз на тыдзень наведваць манікюрны кабінет і цырульню. Аднак каб арганізаваць "салон прыгажосці" дома, трэба мінімум намаганняў. Галоўнае, каб падтрымліваць сябе ў форме стала звычкаю.

Колькі б жанчыне ні было гадоў, колькі б дзяцей яна ні выгадавала – яна заўсёды павінна заставацца жанчынай. Без усялякіх скідак на недахоп грошай і часу.

**Апытанне правёў Аляксандр АНДРЫЯНАЎ.**

Пісьмо вучня

# Эрудзіраваныя чамучкі

***Я вучуся ў гімназіі №1 імя Францыска Скарыны Мінска. Мне здаецца, што лепшай за маю школу не можа быць ніякай і што працуюць у ёй самыя ўважлівыя, самыя таленавітыя настаўнікі, якія кожны дзень аддаюць часцінку сваёй душы нам, вучням.***

У пачатковых класах нашай гімназіі дзейнічае клуб для цікаўных дзяцей, які называецца "Эрудыт". Кіруе ім цудоўны педагог Тамара Уладзіміраўна Кайданік. Тамара Уладзіміраўна - чалавек незвычайны. Яна валодае асаблівым магнетызмам - прыцягвае з першых жа хвілін узаемін. З дзецьмі яна добразычлівая, тактоўная, уважліва выслухоўвае кожнага вучня. З ёй лёгка і проста.

Тамара Уладзіміраўна шмат ведае, пастаянна чытае. Знайшла нейкую навінку, нешта цікавае - адразу да дзяцей. На занятках часта гучаць фразы: "Дзеці, учора я даведалася пра нешта незвычайнае. Цяпер я раскажу вам..." Яна не баіцца "здзівіцца", пачуўшы ад дзяцей нейкую навіну (часам дзеці і нафантазіруюць): "Няўжо? Вось як цікава! А я і не ведала!". І нясуць дзеці энцыклапедыі, даведнікі, вышукваюць самае-самае...

На пасяджэннях клуба часта праводзіцца эксперыментальная работа, ставяцца фізічныя і хімічныя доследы. А вопыт з "Вулканчыкам", які цяпер стаў своеасаблівым сімвалам клуба! Думкі ў галаве творчага маленькага чалавека віруюць гэтак жа, як і вулканчык. Законы пабудовы Сусвету, праблемы чорных дзірак, загадкі жывой і нежывой прыроды, невытлумачальныя праявы чалавечай псіхікі - усё цікавіць маленькіх чамучак.

Ці не таму так чакаюць дзеці чацвер, калі можна праверыць свае веды, паверыць у сябе, узняцца на прыступку вышэй у сваім развіцці?

Тамара Уладзіміраўна першая пазнаёміла нас, яшчэ толькі другакласнікаў, з незвычайна цікавым і разнастайным светам навукі. Мы праводзім віктарыны, інтэлектуальныя гульні, рыхтуем невялікія паведамленні пра цікавыя з'явы жывой і нежывой прыроды.

Мы раслі, і наш клуб сталеў разам з намі. Нашы пытанні станавіліся ўсё больш складанымі, даклады - больш сур'ёзнымі і грунтоўнымі. А ў канцы трэцяга класа некалькі членаў клуба (у тым ліку і я) упершыню прымалі ўдзел у школьнай навукова-практычнай канферэнцыі старшакласнікаў! І зусім нечакана для мяне маё выступленне на тэму "Эвалюцыя зорак" атрымала высокую ацэнку - першае месца сярод вучняў 8-11 класаў. Я памятаю, якая цішыня стаяла ў зале, з якой цікавасцю слухалі мяне старшакласнікі.

Заняткі ў клубе навучылі нас вельмі многаму: працаваць з навукова-пазнавальнай літаратурай, рыхтаваць даклады і выступаць з імі, адстойваць сваё меркаванне ў спрэчцы. Асабліва мне падабалася рабіць невялікія паведамленні пра розных жывых жывёл для вучняў першых і другіх класаў.

Вельмі старанна рыхтаваліся мы да адкрытых пасяджэнняў нашага клуба, на якія прыходзілі настаўнікі і завуч пачатковых класаў нашай гімназіі Святлана Аркадзьеўна Манько. А калі на адным з пасяджэнняў прысутнічала наш дырэктар Наталля Уладзіміраўна Бушная, то мы вельмі хваляваліся і былі рады адчуць яе добразычлівае, паважлівае стаўленне да нас.

Удзел у рабоце клуба многае даў і мне самому. Я даведаўся шмат новага і атрымаў магчымасць стасавацца з равеснікамі, якія, як і я, захапляюцца навукай. Мне было вельмі прыемна (зразумела, гэта і вялікая адказнасць), што мяне ведаюць не толькі мае аднакласнікі, але і самыя малодшыя вучні гімназіі, і выкладчыкі старшых класаў.

Сімвалам нашага клуба была вучоная сава, якая сёлета перайшла да новых уладальнікаў - малышоў-першакласнікаў. Я ўпэўнены, што клуб будзе існаваць вельмі доўга і ніколі не перастане выхоўваць разумных, цікаўных вучняў, сапраўдных эрудытаў. І я перакананы, што многія ўдзельнікі нашага клуба зоймуць у хуткім часе прызавыя месцы на алімпіядах.

**Максім СОНЦАЎ, вучань 5 "В" класа гімназіі №1 Мінска.**

НА ЗДЫМКУ: Тамара Уладзіміраўна Кайданік са сваімі вучнямі.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# Вучні — малюнкі настаўніка

## (З дырэктарскага дзённіка)

***Настаўнікі пачатковых класаў у педагагічным калектыве на асаблівым рахунку. Сапраўды, хіба не яны сустракаюць на парозе школы маленькіх вучняў, каб увесці іх у храм навукі, расчыніць дзверы ў Сусвет? Ніхто з нас не абмінуў таго парога, а ішлі мы пад уважлівымі поглядамі іх, настаўнікаў-пачаткоўцаў, нашых першых, а таму любых, незабыўных. Для іх складзены вершы, песні. Пачаткоўцы - падмурак школы. Схіляем галовы ў павазе перад Настаўніцай напярэдадні Свята жанчын за яе штодзённую працу.***

Настаўнікі-пачаткоўцы – мая слабасць. Свой паўвекавы школьны шлях прайшоў сумесна і побач з імі, бо сам пачынаў у першы мірны пасляваенны год пачаткоўцам, праз тры гады быў прызначаны завучам. Называю некаторыя прозвішчы маіх любімых педагогаў-жанчын: гэта мая першая настаўніца Клаўдзія Васільеўна Пятрэнка – яшчэ жыве! – жыхарка Брагінскага раёна, перасяленка, і настаўніцы Маладзечна – Ірына Іванаўна Місума і Ніна Сцяпанаўна Вышыдкевіч, Ніна Іванаўна Гаськова, Любоў Андрэеўна Ермакова, Людміла Казіміраўна Радкевіч, Алена Сямёнаўна Боган-Ліс, Вера Калінаўна Скрыпко і многія іншыя.

Аповед – пра адну з іх: пра Алену Сямёнаўну Ліс.

Кожны год, напярэдадні свята Перамогі, нас, ветэранаў вайны, запрашаюць у школы на гутаркі. Сустрэчы гэтыя – памятныя падзеі: для вучняў, бо бачаць былых удзельнікаў вайны, і для нас, што глядзім на сваіх прадаўжальнікаў жыцця. Мы, як звычайна, успамінаем, расказваем пра тыя гады ліхалецця, а дзеці даюць канцэрты, уручаюць кветкі, дораць свае вырабы і запрашаюць наведаць урокі. Гэта апошнім часам новае, а для мяне, былога дырэктара, асабліва прыемнае, і заўсёды іду да настаўнікаў пачатковых класаў, а часцей – на ўрокі Алены Сямёнаўны Боган-Ліс. І невыпадкова: яна са сваім класам пачынала "першы крок" па новай тэхналогіі з яе галоўнай праблемай садружнасці школы і сям'і ў справе асобаснага выхавання вучня-дзіцяці...

Урок літаратуры ў 4 "Е" класе. Настаўніца аб'яўляе тэму: "Нас лета ў новыя далі вядзе". Верш паэта Г.Бураўкіна "У паходзе". Затым яна знаёміць дзяцей з планам урока, яго мэтай...

Не буду пераказваць далейшага, але асобныя моманты, якія яскрава характарызуюць Алену Сямёнаўну, адзначу. Яе дэвіз у працы – увязваць матэрыял з сучаснасцю, з жыццём: вучыцца ў жыцця – вучыцца для жыцця...

– Успомнім, сябры, – гаворыць настаўніца, – дзе мы з вамі ў мінулыя гады вандравалі? Дзе было асабліва цікава? Што запомнілася?

Адказы – самыя розныя: у лесе, на Нарачы, ля вогнішча...

– Усё правільна, – згаджаецца Алена Сямёнаўна, – і добра, што ў кожнага сваё меркаванне.

І запрашае вучняў да "Вячэрняга кастра" – на дошку вывешваецца рэпрадукцыя карцін А.Волкава. На экране тэлевізара ўспыхваюць фрагменты кінастужкі, якую знялі бацькі-аматары пра нашых цяперашніх чацвёртакласнікаў у першым паходзе. Дзеці ўзрушаны сустрэчай з сабой у больш раннім узросце.

– А зараз, – прамовіла Алена Сямёнаўна, – павітаемся з паэтам, які напісаў верш "У паход".

Клас імгненна прыціх, а на экране – фрагмент кінастужкі, дзе паэт выступае на дзень Свята песні і працы, якое праходзіла ў Вязынцы. Вось вам і падарунак.

– Гэта ваш аўтар верша, і што вы скажаце?

– Зусім звычайны, – адказала адна з дзяўчынак, – нават на майго дзядулю падобны. А вершы расказваў на "выдатна".

Настаўніца думку дзяўчынкі падтрымала: "Правільна заўважыла Каця. Усе паэты, пісьменнікі, мастакі, артысты, нават касманаўты – тыя ж звычайныя людзі, толькі маюць таленты, якія прыходзяць да чалавека праз вучобу і вялікую працу..."

– І наша Эла будзе артысткай? – запытала лідэр класа.

– І Эла будзе артысткай, Глеб – мастаком, Алёна – паэткай, – упэўнена прамовіла настаўніца. – Трэба толькі да гэтага імкнуцца. Што падабаецца ў дзяцінстве, часта застаецца ў чалавека на ўсё жыццё...

Клас з гонарам паглядзеў на вучняў, якім прадказала будучыню Алена Сямёнаўна, а я падумаў другое... Дзесяткі ўрокаў Алены Сямёнаўны я наведаў за доўгія гады працы ў адным калектыве, многа "паказальных" правяла яна для настаўнікаў школы і горада, і на кожным з іх у аснове была асоба дзіцяці.

Урок працягваўся. Тут высветлілася, што верш, які задалі вывучыць на памяць дома, клас ужо ведаў. Настаўніца нават разгубілася і паглядзела ў мой бок. "А як гэта здарылася?" – запытаў я. Мой сусед па парце, жвавы хлопчык з двума віхрамі на стрыжанай галаве, адказаў: "Мне зімовым вечарам было сумна – вось і вывучыў". Яго падтрымалі іншыя...

– А не цяжка? Былі ж і іншыя ўрокі.

За ўсіх адказала дзяўчынка, лідэр класа: "Калі што робіш з ахвотай, дык не цяжка". І мы гэты "Чабарок", наш падручнік, чыталі, перачытвалі, а вершы ўсе напамяць завучылі – так цікава. І цяпер можна болей пагуляць, на стадыён збегаць". Клас з Аленай згадзіўся. Ёй і дазволілі "расказаць ад сябе" верш "У паход", які яна з пачуццём прадэкламавала – нездарма ж паэтка класа!

Затым была актыўная праца па зместу, зачытвалі прыгожыя, вобразныя выразы.

– Усё гэта мы з вамі бачылі, але не заўсёды ўспрымалі, – гаворыць настаўніца. – Паэт дапамагае нам глыбей зразумець і палюбіць нашую родную прыроду, бы "дзіўную казку", па-новаму адчуць "заманлівае звонкае лета", "духмяную зямлю"...

– Дык як вы павінны расказваць верш? – пытае Алена Сямёнаўна. Кожны з вучняў узняў руку, каб выказаць сваё меркаванне.

– Паслухаем Глеба, – прамовіла настаўніца.

– Я думаю, – пачаў ён, – што паэт спачатку радасна вітае прыход лета, таму гэтае месца трэба чытаць узнёсла, натхнёна, потым, калі будзем любавацца мясцінамі роднага краю, чытаем з павагай і гонарам. Закончым верш спакойна, задуменна, быццам ужо збіраемся ў паход. Верш мне спадабаўся, а калі чытаў яго дома, дык мой дзед нават праслязіўся, што жыццё прайшло, а ён такім свой край нават не ўяўляў.

Заданне на дом было незвычайным: знайсці адзін-два вершыкі пра лета і наогул пра прыроду, а хто здолее, той можа сам паспрабаваць напісаць верш або зрабіць замалёўку.

Я ведаў настаўнікаў-пачаткоўцаў, вучні якіх мелі такі почырк, што немагчыма было адрозніць. Але ёсць яшчэ почырк у паводзінах, адносінах да працы, да чалавека. Гэта вядома, і невыпадкова, што па настаўніку часта мяркуюць пра вучняў: флегматык-настаўнік – яго вучні спакойныя, ураўнаважаныя, у сангвініка і халерыка – наадварот. Сістэма працы, чалавечнасць – таксама ўрок, бо ён настаўляе, вядзе наперад, а не толькі вучыць. Словам, вучні класа – як бы малюнкі настаўніка...

Нарэшце, дзеці засабіраліся дадому, выходзілі ў задуменні, запрашалі яшчэ наведаць. Калі за апошнім зачыніліся дзверы, Алена Сямёнаўна толькі ўсміхнулася і сказала: "Мой загад дзецям такі: аб тым, што ў школе адбываецца, расказвайце дома – няхай бацькі і дзяды ведаюць, чым жыве школа".

У кабінеце Алены Сямёнаўны я бываў дзесяткі разоў. І заўсёды заўважаў штосьці новае. Зараз на сцяне ад акон і на падаконніках вазоны кветак, але – незвычайных, лекавых: лімон, герань, бягонія, нават кітайская ружа – каб не прыжываліся розныя бактэрыі.

У класе ўтульна, сцены прыгожа і з густам афарбаваны. Вокны і дошка зашторваюцца механічна – усё зроблена з дапамогай членаў сям'і і бацькамі вучняў.

І нечакана ўспомніў, як звыш трыццаці шасці гадоў назад у кабінет дырэктара завітала дзяўчына ў матроскай форме і падала накіраванне на пасаду настаўніцы. Камплектаванне ў той час закончылася, і заставалася толькі месца піянерважатай.

– Можна і піянерважатай, – адразу згадзілася.

А праз нейкі час на бацькоўскім сходзе быў дадзены першы канцэрт самадзейнасці, школа вызначылася і песнямі, і музыкай, і танцамі, ды так, што стала пераможцай у горадзе і выйшла на абласную арбіту. У канцы навучальнага года з вобласці прыйшло запатрабаванне даць тэрмінова характарыстыку на старшую піянерважатую. Даў ад душы, як таго і заслужыла яна. І на сваю бяду, бо атрымаў загад "камандзіраваць" Алену Сямёнаўну ў міжнародны летнік "Артэк" – на цэлы год.

Вярталася яна з вялікай радасцю і заявіла, быццам жартам, але і ўсур'ёз: "Хопіць піянерыць... Давайце клас, бо піянерак браць замуж хлопцы не спяшаюцца". Клас яна атрымала.

Пасля заняткаў мы частуемся гарбатай і вядзем гутарку пра тэхналогію "Першы крок".

– Даўно хацелася выказацца, і няхай гэта будзе сёння, – пачала Алена Сямёнаўна. – Садружнасць школы з сям'ёй была і раней: планаваліся мерапрыемствы, праводзіліся сходы бацькоў, нават канферэнцыі, але гэта адбывалася стыхійна. Зараз садружнасць узвялі у ранг дзяржаўнасці, што павысіла адказнасць бацькоў. Аб гэтым многа гавораць, пішуць, спрачаюцца.

Сям'я, вядома, змянілася: памаладзела, зменшылася. Змяніліся і выхаваўчыя функцыі членаў сям'і. Тут я вылучаю тры тыпы. Першы, калі бацька і маці – паміж імі ўзаемаразуменне, павага – гэта нармальна. Другі – ужо маці, бацька і дапамога адной з бабуль, а трэці – самы ненадзейны, калі кіруе выхаваннем бабуля, затым маці, а бацька па розных прычынах ад выхавання адхілены, словам, яго ігнаруюць.

Першы сход правяла з бабулямі. Прыйшлі ўсе, некаторыя з сяброўкамі і дзядамі на пару. "Хто вы? – пытаюся ў іх. – І якая ваша роля ў выхаванні ўнукаў?"

Адна выказалася: "Нашы ўнукі – нашы турботы".

"А дзе іх бацькі? Калі яны – вашы турботы? І, дарэчы, турботы вашы я ведаю: каб унучачцы (унучку) было палягчэй ды лепей, купаеце ў купелі бязмернай любові і пяшчотнасці".

У адказ – маўчанне, толькі адзін з дзядоў прамовіў: "Залатыя словы..."

Раптам узнялася з месца маладая, нафарбаваная жанчына, поўная сілы і энергіі, і зыпыталася з сарказмам: "Ці не хочаце вы, паважаная, забраць ад нас нашу радасць, адлучыць нас ад родных унукаў?"

"Не адлучыць, а прыблізіць, толькі па-іншаму, каб унукі былі не лялькамі, а памочнікамі. Для якога жыцця вы іх рыхтуеце, калі яны часцяком уступаюць у яго бездапаможнымі, эгаістычнымі спажыўцамі?.. Разумею, што многім недаспадобы мае словы. Але ведайце – прыйдзе да вашых унукаў узрост, калі ім захочацца блізкасці да родных маці і бацькоў, а ў тых і другіх – пустэча, непаразуменне, вы былі бар'ерам для ўзаемін у іх жыцці..."

Маўчалі, як вады ў рот набраўшы, але "да пабачэння" прамовілі.

Затым быў сход з матулямі: адны зразумелі, падтрымалі, другія нават пакрыўдзіліся.

"Калі дзіця з дзяцінства не вынесла пачуцця разумення, павагі, любові да маці і бацькі, то ўжо не зможаце прывіць яго ніколі. Падумайце, каб вашы дачка або сын не папракнулі вас – а дзе ты, маўляў, раней была? І на сёння апошняе: некаторыя з вас пры дзецях зневажаюць іх бацькоў – гэта непапраўная памылка. Дзеці займаюць бок слабейшага, а вас зразумеюць пазней, і не ў вашу карысць!"

Слухаў скупыя выказванні Алены Сямёнаўны, а ведаў болей: у свой час яна арганізавала бацькоўскі "лікбез", дзе вырашаліся пытанні як выхавання дзяцей, так і ўзаемін, абавязкаў членаў сям'і. А вынік вядомы – умацаванне садружнасці, што сказвалася станоўча на працэсе выхавання.

І я ведаў, што гэты выпуск пачаткоўцаў у яе дзесяты... Але выпускнікі не забываюць сваю першую настаўніцу!

Слова – зброя настаўніка, урок у класе – поле дзейнасці. Даць урок – гадзіна часу, а калі даць дзесяткі тысяч – гэта адзін бясконцы ўрок даўжынёй у жыцці...

І жыццё, шлях яе – прыклад для пераймання. Сціплая настаўніца, руплівая гаспадыня ў сям'і, добразычлівая ў калектыве – такая яна, радавая настаўніца-пачаткоўка, настаўніца вышэйшай катэгорыі, настаўніца-метадыст – Алена Сямёнаўна Боган-Ліс.

**Уладзімір КАРАЛЬКОЎ, ветэран вайны і працы.**

**Яўгенія КУЛІКОВА, дацэнт Віцебскага дзяржаўнага універсітэта, кандыдат педагагічных навук:**

# "Сёння я мастак, і мне падабаецца ім быць"

"Яна ніколі не дазваляе сабе рабіць што-небудзь абы-як. Яна адчувае час і дэманструе эвалюцыю свайго ўнутранага свету. Ёй падабаецца проста жыць і займацца справамі, далёкімі для іншых. У яе работах спалучаецца неспалучальнае, размаўляюць кветкі, дрэвы, заход сонца і світанак, ажываюць цені. Яна малюе без эскізаў, амаль начыста, не адрываючы пэндзля ад паперы. Людзі і прадметы ў яе работах – умоўныя і ўсё ж пазнавальныя. Яна імкнецца быць незалежнай ад абалонкі свету, каб пранікнуць у яго сутнасць. І ў гэтым парадокс яе творчасці: чым далей ад рэальнасці – тым бліжэй да праўды. Вы заінтрыгаваны?" – пытаецца студэнтка матэматычнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага універсітэта Таццяна Бандзёнак у сваім водгуку.

"Вы заінтрыгаваны?" – пытаюся цяпер я. Тады зайдзіце ў Віцебскі літаратурны музей, дзе адкрылася трынаццатая па ліку выстаўка мастацкіх работ акварэлісткі Яўгеніі Куліковай.

Паўцемра, гараць свечкі, гучыць спакойная музыка. Вы ўваходзіце ў залу, на сценах якой вісяць карціны. Побач, на сталах – выказванні П.Фларэнскага, І.Шавялёва, якія прымушаюць мысліць, супастаўляць, філасофстваваць. І яшчэ – арыгінальныя камяні, іншыя атрыбуты, якія ўносяць у агульную атмасферу лірызм і... загадку. І абавязкова – ікона з вобразам святой Яўгеніі, якая прысутнічае на ўсіх выстаўках мастачкі, асвячаючы іх.

Перад вамі блакітныя, бэзавыя, аранжавыя пейзажы. Вада, аблокі, лістота, кветкі, месяц... Святло, прыцемкі... Здаецца, усё гэта ты ўжо бачыў. Калісьці даўно. А, можа, толькі ўчора. Невыразныя ўспаміны перапаўняюць цябе. Ты быццам раствараешся ў гэтым акварэльным царстве і трапляеш у "безназоўнае, нявыдуманае". Пакутуеш разам са "Стомленым месяцам", імкнешся да адзінокай "Кветкі ў пустыні", а потым "Плачаш у восені, засынаючы". Але з упэўненасцю, што "Усе дарогі вядуць некуды"... Ты разумееш, што ў гэтай зале не адзін. Але "Аглушэнне цішынёй" настолькі моцнае, што хочацца гаварыць "Словы кахання" і слухаць "Музыку дажджу". Раптоўна надыходзіць "Абуджэнне". Ты зноў у рэальным свеце, а побач з табой – Мастак, работы якога хочацца глядзець і глядзець. Філосаф, якога хочацца зразумець. Лінгвіст, з якім хочацца пагутарыць пра таямніцы "вялікай і магутнай". Зрэшты...

Побач са мной – Яўгенія Кулікова. Яна ж Мастак. Яна ж філосаф. Яна ж лінгвіст. Яна ж дзівосная жанчына, з якой лёгка і прыемна гутарыць на самыя розныя тэмы. Акрамя таго, яна – кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры алгебры і методыкі выкладання матэматыкі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта, дзе працуе ўжо 25 гадоў. Адна ва ўсіх іпастасях. Можна раскрываць кожную грань яе натуры. Але... "Сёння я мастак, і мне падабаецца ім быць", – удакладняе Яўгенія Іванаўна.

Калі яна адчула ў сабе гэты талент? "Я за тое, каб у жыцці ўсё адбывалася нечакана", – сказала яна. Але, кажуць, усякая выпадковасць – заканамернасць. І, мне здаецца, у жыцці маёй субяседніцы гэтая "выпадковая заканамернасць" прасочваецца даволі яскрава. Напэўна, рана ці позна яе мастацкай натуры стала б цесна ў рамках тэарэм і аксіём. Працавітасць, настойлівасць у дасягненні мэты, пастаянны пошук, сіла характару – гэта ад бацькоў. А мастацкія схільнасці...

Дзядзька Яўгеніі Іванаўны Сцяпан Міхайлавіч Сцяпашкін – мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, трыццаць гадоў адпрацаваў дырэктарам мастацкага музея ў Разані. Нейкі час Яўгенія разам з бацькамі жыла з сям'ёй дзядзькі. У яго кватэры заўсёды было шмат карцін, прыходзілі мастакі, мастацтвазнаўцы. Размовы, спрэчкі, дыскусіі... Магчыма,



менавіта тады і сфарміравалася новая грань яе натуры. Сцяпан Міхайлавіч не быў безуважным да лёсу пляменніцы, сачыў за яе развіццём, бачыў яе захопленасць многімі прадметамі, адчуваў у ёй творчую і неардынарную асобу. Таму калі Яўгенія пасля заканчэння школы вырашыла паступаць у Разанскі педагагічны інстытут на спецыяльнасць "Настаўнік матэматыкі з правам выкладання на англійскай мове", ён быў вельмі здзіўлены: "Які матфак?" А яна проста была ў захапленні ад новай настаўніцы матэматыкі, якую да гэтага часу лічыць сваім першым настаўнікам у жыцці. І вырашыла стаць выкладчыкам. І ні разу не пашкадавала пра гэта.

Мы па-рознаму паводзім сябе ў самых складаных сітуацыях. Адны апускаюцца, страчваюць усё, што набылі за многія гады. А ў другіх, наадварот, адкрываюцца новыя грані характару, праяўляюцца нечаканыя бакі адоранай натуры. Такая Яўгенія Іванаўна. Сем гадоў назад, здавалася, у яе жыцці адбылася катастрофа.

– І акварэль узяла на сябе частку майго смутку, – успамінае Я.Кулікова. – Яна такая няўлоўная, як мае жыццё. Трэба "злавіць" гэтую фарбу. Ніколі не ведаш, што напішаш. Поўная імправізацыя. Мне падабаецца празрыстаць акварэлі, яе лёгкасць. Як гэта здарылася? Аднойчы пад Новы год пайшла я ў Віцебскі камбінат мастацтва і сустрэлася з намеснікам дырэктара. На стале ў яго кабінеце ўбачыла пэндзлі. І вось стаю я і гладжу іх рукой. Такія мяккія, пяшчотныя, цёплыя. І раптам ён мне іх дорыць. А дома невядома адкуль аказаліся дзіцячыя акварэльныя фарбы. І я паспрабавала пісаць. Першы малюнак – гэта было нешта жахлівае. Усё расцякалася, а калі фарба высахла, папера скруцілася. Але я не кінула свой новы занятак. Да ўсяго дайшла сама. У сваіх работах, акрамя акварэлі, выкарыстоўвала фларыстыку, гуаш.

Так шукала сябе ўжо ў сталым узросце Яўгенія Іванаўна Кулікова. Гады чатыры назад адчула, кажучы словамі А.Твардоўскага, што "натрапіла на радок". І праз год адбылася першая выстаўка мастака-пачаткоўца, якая прайшла ў роднай альма-матэр. І першыя водгукі. "Сімфонія колеру, настрою, думкі і інтуіцыі. Перажыла дзівосныя імгненні сугучча душэўнага і духоўнага". "Вашы работы – простыя, як сама геніяльнасць, і геніяльныя, як сама прастата". "Гэта неаспрэчны доказ таго, што гармонія заўсёды правяраецца алгебрай. Гэта – супер!" Скажыце, як пасля такіх ацэнак не прадоўжыць творчы пошук?!

– За гэты час выстаўкі прайшлі не толькі ў гарадах Беларусі, – расказвае Яўгенія Іванаўна, – але і ў Швейцарыі, Германіі. Кожная – гэта новыя сустрэчы, новыя водгукі. Толькі па водгуках зразумела, што значаць мае работы. Пішуць людзі рознага ўзросту, розных прафесій, дзеці. Але думкі ва ўсіх падобныя. Разумею, што ў маіх работах ёсць штосьці іншае, а не проста мастацкая каштоўнасць. Гляджу на іх. Нечым яны прыцягваюць. На ўзроўні душы, а можа, духу... На адной выстаўцы да мяне падышла жанчына гадоў 35 і кажа: "Яўгенія Іванаўна, вы мяне выратавалі. Мне было так кепска. Я стаяла на краю бездані. Але сёння я ўбачыла вашы работы, слухала, як вы адказвалі на пытанні, і зразумела, як мне жыць". Дзеля такога варта пісаць.

"Пабывала ў свеце цудоўнага. Стала лёгка і прыемна. Як хораша, што існуюць на зямлі таленавітыя людзі, здольныя прыносіць шчасце і супакаенне іншым". "У Вашых работах – патэнцыял да адчування радасці, шматграннасць, цеплыня, універсальнасць, непаўторнасць навакольнага свету, стымул да жыцця..." (З кнігі водгукаў.)

Гэта не мае словы. Але я з імі цалкам згодна. А вы маеце магчымасць самі пераканацца ў іх слушнасці. Выстаўка акварэляў Яўгеніі Куліковай будзе працаваць у Віцебскім літаратурным музеі на працягу сакавіка. Хочаце ўбачыць цуд? Прыходзьце. Прыязджайце.

**Любоў ТРАПЕЗНІКАВА.**

НА ЗДЫМКАХ: Яўгенія Кулікова; "Нотабенэ".

# Творцы гімназіі - педагогі-жанчыны

***Некалькі гадоў назад сярэдняя школа №2 горада Белаазёрска набыла статус гімназіі. Мабыць, невыпадкова менавіта гэтай школе была прадастаўлена такая магчымасць. Тут працуе таленавіты калектыў аднадумцаў-настаўнікаў, які паспяхова вырашае задачы па рэалізацыі рэформы школы. У гэтай навучальнай установе знайшлі свае месца гімназічныя, профільныя і ліцэйскія класы, якія забяспечваюць навучанне дзяцей з улікам іх індывідуальных здольнасцей і магчымасцей.***

Наладжваюцца сувязі гімназіі з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Так, на аснове супрацоўніцтва з Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміяй працуюць ужо тры класы тэхнічнага профілю: восьмы, дзевяты і дзесяты.

У гімназіі створаны добрыя ўмовы для пазакласнай работы з вучнямі, што дазваляе развіваць іх творчыя здольнасці. Дзеці з цікавасцю займаюцца ў гуртках, клубах па інтарэсах, удзельнічаюць у прадметных тыднях.

Педкалектыў можа ганарыцца тым, што ён здолеў захаваць пазіцыі патрыятычнага і грамадзянскага выхавання і падняць на новы ўзровень работу па фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці вучняў. Гэтаму спрыяе мэтанакіраваная праца з дзецьмі ў школьным музеі. Тут часта праводзяцца выстаўкі ўзораў беларускага ткацтва і вышыванкі, удзел у якіх прымаюць вучні і бацькі, нават жыхары горада.

Фарміраванню здаровага ладу жыцця гімназістаў спрыяе разнастайная фізкультурна-аздараўленчая работа. Добрай традыцыяй сталі турыстычныя злёты вучняў старэйшых класаў на Белым возеры, спартыўныя святы.

Значную дапамогу настаўнікам у вывучэнні індывідуальных асаблівасцей дзяцей аказвае сацыяльна-псіхалагічная служба гімназіі.

Педкалектыў гімназіі — а ў большасці гэта прыгожыя, руплівыя, высокапрафесійныя, адданыя справе навучання і выхавання моладзі жанчыны-настаўніцы: імкнецца выхаваць адукаваную, гуманную асобу, падрыхтаваную да самарэалізацыі ў складаных умовах сучаснага жыцця.



Так, больш як 25 гадоў працуе ў гімназіі настаўніца Вольга Рыгораўна Левашэвіч. Зараз яна выкладае матэматыку. Гэта чалавек, улюбёны ў свой прадмет. Кожны год вучні Вольгі Рыгораўны займаюць прызавыя месцы на раённых алімпіядах па матэматыцы і годна прадстаўляюць гімназію на алімпіядах у вобласці.

У пачатковых класах праходзіць апрабацыю мадэль сістэмы школьна-сямейнага выхавання "Арыенцір". Па гэтай мадэлі працуюць настаўніцы Валянціна Сцяпанаўна Сцяпурка і Таццяна Іванаўна Гандзюк. І ўжо назапашаным вопытам яны шчодра дзеляцца з усімі настаўнікамі.

Калегі разам абмяркоўваюць арганізацыю гімназічных калектыўных творчых спраў і заахвочваюць бацькоў прымаць у іх удзел.

Напярэдадні светлага, радаснага Дня 8 Сакавіка хочацца праз нашу педагагічную газету павіншаваць усіх жанчын-педагогаў Белаазёрскай гімназіі са святам, пажадаць ім натхнення ў працы, вялікай павагі і любові да дзяцей, радасці ў жыцці.

**Іван АСКІРКА.**

НА ЗДЫМКАХ: настаўніца матэматыкі вышэйшай катэгорыі Вольга Рыгораўна Левашэвіч з пераможцам абласной алімпіяды па матэматыцы, вучнем 8 "Б" класа Андрэем Быком; дырэктар музея, настаўніца гісторыі Святлана Аляксееўна Дземідовіч і вучні-экскурсаводы.

**Фота аўтара.**

г.Белаазёрск
Брэсцкай вобласці.

## Беларускі дзяржаўны універсітэт

# аб'яўляе

## аб праўдзенні

## "Дзён адчыненых дзвярэй"

"Дзень адчыненых дзвярэй" для абітурыентаў гістарычнага факультэта, факультэта журналістыкі, філалагічнага факультэта, факультэта міжнародных адносін, юрыдычнага факультэта, факультэта філасофіі і сацыяльных навук, факультэта кіравання і сацыяльных тэхналогій, Міжнароднага гуманітарнага інстытута адбудзецца 15 красавіка.

"Дзень адчыненых дзвярэй" для абітурыентаў механіка-матэматычнага факультэта, факультэта прыкладной матэматыкі, факультэта радыёфізікі і электронікі, фізічнага факультэта, хімічнага факультэта, біялагічнага факультэта, геаграфічнага факультэта, факультэта фундаментальнай і альтэрнатыўнай медыцыны, эканамічнага факультэта, факультэта менеджменту нерухомай маёмасці, Юрыдычнага каледжа адбудзецца 22 красавіка.

Пачатак мерапрыемстваў "Дзён адчыненых дзвярэй" у 14 гадзін у актавай зале галоўнага корпуса (пр-т Ф. Скарыны, 4). Тэлефон для даведак – 226-59-51.

**Прыёмная камісія**

Фотарэпартаж

# Ружы з... бульбы

***Паклікаць бы да гэтага стала Тосю Кісліцыну. Памятаеце галоўную гераіню знакамітай кінастужкі "Дзяўчаты" ў выкананні Надзеі Румянцавай? Паварыха заўзята даказвае галоўную ролю бульбы ў кухарскай справе і з захапленнем пералічвае на пальцах бульбяныя стравы: "Бульба вараная, бульба смажаная, бульба-фры, бульба-пай"...***



Эх, не далічылася дзяўчынка. Не хапіла фантазіі маладому спецыялісту! А яно і не дзіўна. Тут нават масцітыя майстры схібілі. Яны доўга разглядвалі прадстаўленыя вырабы, адкрыўшы пры гэтым рот ці то ад здзіўлення, ці то ад жадання паспытаць. І ў першую чаргу... каляровыя букеты. Ганарлівыя ружы, зграбныя нарцысы, пяшчотныя фіялкі, задумлівыя лілеі былі зроблены... са звычайнай бульбы.

Якія хочаш чапляй акуляры, а ніяк не адрозніш гэтыя кветкі ад сапраўдных. Такія свежыя, яркія, нават з кропелькамі расы, яны заварожваюць позірк кожнага наведвальніка.

А на выстаўку сабраліся і навучэнцы, і майстры вытворчага навучання мінскага вучылішча № 38 перапрацоўчай прамысловасці.

Выраблядь такія цуды будучыя кухары вучацца ўжо на першым курсе. Але цуд цудам, а пальцы добра пакруціш, пакуль выражаш пялёсткі. Колер падабраць - таксама няпростая справа. Ужо потым рабі сцябло, лісце і можаш ставіць кветку ў вазу.

Майстры кухарскай справы Алена Іванаўна Максіменка, Таццяна Уладзіміраўна Каспарэвіч, Алена Іванаўна Палтаран, Людміла Іванаўна Рудзько працуюць ва ўстанове ўжо даўно, таму набілі руку як след.

А гэта вельмі важна для прафесіі повара. Прафесійныя навыкі набываюцца пры нарэзцы прадуктаў. Не так і проста, напрыклад, нарэзаць лустачкі хлеба альбо кавалкі мяса аднаго памеру і таўшчыні. Хто рэзаў, той ведае. А пра выразанне - увогуле асобная размова. Менавіта ў кухарскай справе яно лічыцца пікам прафесійнага майстэрства.

Гэта і праверылі педагогі ў сваіх выхаванцаў падчас выстаўкі агародніны. І калі з задавальненнем прынялі бульбяныя букеты ў падарунак на свята - значыць праверка задаволіла.

**Ала КЛЮЙКО.**



НА ЗДЫМКАХ: майстры вытворчага навучання фарміруюць букеты з агародніны. Адзін з іх ужо ўпрыгожвае святочны стол.

# Правила приема в Лицей БГУ ( 2002 г.)

В Лицей БГУ принимаются учащиеся, проживающие на территории Беларуси и закончившие в текущем году 9 классов общеобразовательной школы, для продолжения обучения в 10 – 11 классах по следующим специальностям: **физика, математика, химия, химия и биология, русская и белорусская филология, история и обществоведение.** Набор в лицей происходит путем проведения **общеобразовательного теста (письменно) и конкурсных вступительных экзаменов с 15. 06 по 22. 06.2002 г.**

***Порядок проведения экзаменов:***

Общеобразовательный тест проводится перед экзаменами. Тест оценивается зачет/незачет. Абитуриенты, получившие незачет, не допускаются к сдаче экзаменов.

**Перечень экзаменов по специальностям:**

**физика:** физика (письменно), математика (письменно), физика (устно с письменным заданием);

**математика:** математика (письменно), физика (письменно), математика (устно);

**химия:** химия (письменно), математика (письменно), химия (устно);

**химия-биология:** химия (письменно), математика (письменно), биология (устно с письм. заданием);

**русская и белорусская филология:** русский язык (диктант), белорусский язык и литература (письменный тест), русская литература (устно);

**история и обществоведение:** всемирная история /новейшее время/ (письменный тест), белорусский язык или русский язык (диктант), история Беларуси (устно). О своем выборе экзамена (русский или белорусский диктант) абитуриент сообщает при подаче документов. Абитуриенты, получившие оценку "2", к сдаче последующих экзаменов не допускаются.

***Без вступительных экзаменов в Лицей принимаются:***

победители Республиканской олимпиады по следующим предметам:

- *в математический класс* – по математике (дипломы I, II, III степеней), по информатике (дипломы I степени);
- *в физический класс*– по физике (дипломы I, II степени);
- *в химический класс* – по химии (дипломы I, II степени);
- *в химико-биологический класс* – по химии и биологии (дипломы I степени);
- *в филологический класс* – по русскому или белорусскому языку (дипломы I, II степени);
- *в исторический класс* – по истории (дипломы I степени);
- победители Республиканской олимпиады "Абитуриент Лицея" (проводится в апреле-мае).

**Освобождаются от письменного экзамена (по биологии - от устного) с выставлением оценки "5":**

- победители Республиканской олимпиады по истории (дипломы II, III степени) – в исторический класс; химии и биологии (дипломы II, III степени) – в химико-биологический класс; русской и белорусской филологии (диплом III степени) – в филологический класс;

химии (диплом III степени) – в химический класс; физике (диплом III степени) – в физический класс;

- призеры открытых Республиканских олимпиад "Абитуриент Лицея-2002". Общеобразовательный тест и остальные экзамены сдаются на общем основании.

* "Победители Республиканской олимпиады по информатике (дипломы II, III степени), поступающие в математический класс, получившие зачет по общеобразовательному тесту, сдают экзамен по математике (письменно). При получении оценки "4" и выше они зачисляются вне конкурса, при получении оценки "3" или "3,5" – сдают остальные экзамены и участвуют в общем конкурсе.

Победители Республиканской олимпиады по предметам, не являющимся профилирующими на данную специальность, сдают экзамены и участвуют в общем конкурсе с получением одного дополнительного балла.

***Документы принимаются с 13 мая по 10 июня 2002г.***

Для участия в экзаменах необходимы следующие документы:

заявление на имя директора, медицинская справка (форма 086/у), 6 фотографий 3x4, выписка об оценках за 1 – 3 четверти 9 класса.

На время сдачи экзаменов общежитие не предоставляется.

Обучение в Лицее бесплатное. Существует также платная форма обучения на договорной основе.

Выпускники Лицея 2001 года, имеющие аттестат без троек, пользуются льготами медалистов общеобразовательных школ при поступлении в БГУ.

В Лицее также существует такая форма платного обучения, как подготовительные курсы "Вечерний Лицей" для учащихся 8 – 9 классов для углубленного изучения отдельных предметов.

***Наш адрес:*** **220030, г. Минск, ул. Ульяновская, 8. Тел. 209-56-19,209-56-11,209-56-13.**

## Олимпиада "Абитуриент Лицея БГУ-2002"

**Учебно-образовательное учреждение "Лицей БГУ"**

**проводит олимпиады по следующим дисциплинам:**

***белорусский язык, русский язык, математика, физика, химия.***

**Победители олимпиады "Абитуриент Лицея БГУ-2002"** имеют право зачисления в 10 класс лицея БГУ без вступительных экзаменов на соответствующие специальности. В олимпиадах могут принимать участие учащиеся 9-х классов средних школ.

| Предмет | Дата, время, I тур |
|---|---|
| Белорусский язык | 7 апреля, 10.00 |
| Русский язык | 7 апреля, 10.00 |
| Химия | 14 апреля, 10.00 |
| Математика | 21 апреля, 10.00 |
| Физика | 12 мая, 10.00 |

**Первый тур** олимпиады по всем предметам будет проводиться в здании химического факультета БГУ по адресу: г. Минск, ул. Ленинградская, 14. Дата, место и время проведения второго тура будут сообщены после проведения первого тура.

Регистрация участников начинается за час до начала олимпиады.

Участникам необходимо иметь при себе: справку из школ, с наклеенной фотографией, заверенную школьной печатью, о том, что предъявитель является учащимся 9-го класса; ручку, тетрадь (12 листов), 5000 рублей (организационный взнос).

*Желающим принять участие в олимпиаде необходимо подать заявку по телефонам в Минске: 209-56-19, 209-56-11, 209-56-13 с 10.00 до 17.00, а также по адресу: 220030, ул. Ульяновская, 8, каб. 100, "Олимпиада". В заявке необходимо указать предмет, фамилию, имя, город, номер школы.

Приём заявок по телефону или в письменной форме прекращается за 1 день до проведения I тура.

